Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

17 - 23 кастрычніка 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№42 (140)

ПРАГРАМА



НТВ ПЛЮС

5 старонка

## Конкурс "Фотамадэль рэгіёна"



*Каця:* Мінск, 21 год, рост 173, вага 52; паміж Томам і Джэры горшага не выдзяляе, увечары аддае перавагу добрай, вясёлай кампаніі - кава і г.д.; не любіць адваротнае.

Фота Віктара ЧАПСКАГА.

Нагадваем чытачам, што ў нашым конкурсе "Фотамадэль рэгіёна" можа ўдзельнічаць любая дзяўчына. Свае работы могуць дасылаць як прафесіянальныя фатографы, так і аматары. Рэдакцыя прымае здымкі і ад саміх удзельніц. Па заканчэнні конкурсу пераможца атрымае прыз ад "Рэгіянальнай газеты". Акрамя гэтага ўзнагарода чакае і ўдзельніцу, якой аддадуць свае сімпатыі чытачы газеты. Вынікі мы плануем падвесці да Новага года. Чакаем вашых здымкаў.

## Крымінал, здарэнні

# У забойстве падазраецца настаўнік

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні насупраць магазіна "Космас", ля інтэрната, знайшлі труп мужчыны. Раніцой паступіў сігнал дзяжурнаму па аддзеле міліцыі.**

На "аб'ект" выехала аўтарытэтная аператыўнаследчая група: начальнік ГРАУС Яўген Скварцоў, начальнік крымінальнай міліцыі Уладзімір Пагуда, начальнік крымінальнага вышуку Георгій Поклад, начальнік аддзялення па раскрыцці злачынстваў супраць асобы Генадзь Сідзяка, старшы следчы абласной пракуратуры Вячаслаў Цітовіч, іншыя супрацоўнікі міліцыі.

Твар забітага быў знявечаны.

-Гэта, здаецца, мой сын, - няўпэўнена вымавіў нейкі мужчына.

Пабег па жонку. Жанчына доўга ўглядалася:

- О бог, ты сапраўды ёсць - не ён.

На ўсялякі выпадак з'ездзілі на работу да сына. Дома ў тую ноч ён не начаваў, але быў сапраўды жывы.

Следству перашкаджала адсутнасць дакументаў у забітага. Тым не менш, міліцыя атрымала аператыўную інфармацыю аб магчымым дачыненні адкага грамадзяніна да забойства. Ён быў дастаўлены ў аддзел і ў 13 гадзін таго ж дня прызнаўся ў забойстве. Напэўна, пасляховы вынік абумовілі прафесіяналізм міліцыянераў і работа інфарматараў. Ідзе следства, але на сёння малюнак трагедыі такі: ля гадзіны ночы 33-гадовы мужчына вяртаўся дадому. 21-гадовы падышоў да яго па цыгарэты. Са слоў затрыманага:

- Я прасіў даць закурыць. А ён абразіў. Маўляў, па барах ходзіш, а на курыва грошай не маеш. Я пакрыўдзіўся.

Па заключэнні судовамедыцынскай экспертызы, смерць наступіла ў выніку пералому шчытападобнага храшча, кровазліцця ў галаву.

Ідзе следства і прозвішча падазронага пакуль не называецца. З нашых крыніц вядома, што ён — настаўнік адной са школ Маладзечна. Вучыўся завочна ў інстытуце і па вечарах працаваў "вышыбалам" у бары.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Навіны

### Настаўнікаў развіваюць

*АШМЯНЫ. Днямі група настаўнікаў і завучаў пачатковых класаў наведалася ў смаргонскі ліцэй, каб азнаёміцца з нетрадыцыйнымі сістэмамі навучання.*

"Дэлегаты" змаглі папрысутнічаць на ўроках, атрымалі тлумачэнні, а таксама выказалі свае пажаданні. Паездка аказалася дарэчы, і трэба меркаваць, неўзабаве многія ашмянскія школьнікі пачнуць вучыцца па сістэме развіццёвага навучання. Як у ліцэі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Фестываль вяртаецца

*МАЛАДЗЕЧНА. Фестываль беларускай песні і паэзіі вяртаецца на сваю "гістарычную радзіму".*

Вясной наступнага года у Маладзечне прагучаць толькі новыя песні на вершы нацыянальных паэтаў.

Пастаянны мастацкі кіраўнік фестывалю Міхась Фінберг сказаў, што ў Маладзечна прыедуць маладыя таленавітыя выканаўцы.

*Аддзел інфармацыі.*

### Адкуль морква?

*АСТРАВЕЦ. У жыхаркі вёскі Дравянікі Рэгіны Вянгроўскай сёлета небывалы ўраджай.*

Прынамсі, вырасла морква вагой 200-300 грамаў. Самыя ж вялікія цягнуць нават на 800-1000 грамаў.

Чаму яна такая ўрадзіла, гаспадыня адказаць не бярэцца.

*Сямён ДАЎГАЛЁЎ.*

### Зубы на колы

*АШМЯНЫ. У мясцовым тэрытарыяльна-медыцынскім аб'яднанні пасля рамонту аднавіла дзейнасць крыху незвычайная дапамога. Гэта стаматалагічны комплекс, які размяшчаецца на спецыяльна абсталяванай аўтамашыне.*

Урачы ездзяць цяпер па школах. Акрамя лячэння праводзяць прафілактычныя гутаркі і даюць практычныя парады, як захаваць зубы здаровымі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Пікет не адбыўся

*СМАРГОНЬ. Жыхары горада Ягор Лявіцкі і Аляксандр Дзергачоў падалі ў райвыканком заяўку на правядзенне 12 кастрычніка пікета. Іх мэта-- прыцягнуць увагу ўлады да пагаршэння ўмоў жыцця, абумоўленага ростам цэн.*

Райвыканком, "прымаючы да ўвагі намаганні мясцовых органаў дзяржаўнай улады, накіраваныя на стабілізацыю паляпшэння сацыяльна-эканамічнага становішча горада і раёна", на правядзенне пікету дазволу не даў.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

### Куды пайсці на танцы?

*АСТРАВЕЦ. У вёсцы Караняты з-за адсутнасці наведвальнікаў мусяць закрыць сельскі клуб.*

Акрамя яго ў раёне падобны лёс чакае яшчэ шэраг культурных устаноў у аддаленых ад райцэнтра вёсках.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Беспрацоўе

# "Спадарожнік" у лідэрах

**Змяшчаем табліцу, складзеную па звестках, атрыманых з рэгіянальных цэнтраў занятасці. Пададзены стан на пачатак кастрычніка.**

| Горад | Колькасць беспрацоўных | Лідэр па скарачэнні рабочых месцаў | Сярэдні тэрмін уліку ў цэнтры занятасці | Спецыяльнасці, з якімі цяжка ўладкавацца на работу | Пакараныя за невыкананне грамадскіх работ (пазбаўленыя дапамогі) |
|---|---|---|---|---|---|
| Маладзечна | 2710 | "Спадарожнік"-- 450 чалавек з пачатку года | 1,5 года | эканаміст, інжынер, бухгалтар | 30 |
| Вілейка | 839 | "Зеніт" | 80% беспрацоўных-- жанчыны. Па афіцыйных звестках вакансій для іх няма. Некаторыя не могуць уладкавацца 3 гады. | | 45 |
| Смаргонь | 2254 | ВА "Завод аптычнага станкабудавання" | да 3 год | тэхнік-тэхнолаг | 236 |
| Мядзел | 375 | няма | 4-5 месяцаў | інжынер, настаўнік, бухгалтар, эканаміст, медсястра | 40 |
| Астравец | 574 | няма | 6-10 месяцаў | швачка і наогул жанчынам Больш шанцаў у бухгалтараў | 65 |
| Ашмяны | 178 | няма | 1 год | швачка, прадавец, бухгалттар | 56 |
| Валожын | 214 | няма | 6 месяцаў | бухгалтар, эканаміст, інжынер | 20 |

*Аддзел інфармацыі*

## Віншуем са шлюбам!

*У апошнія дні (06-12.10) шлюб у нашым рэгіёне ўзялі чарговыя пары:*

**Смаргонь**

Р. Баранаў і Т. Круглікава, А. Скрабатун і Т. Жучкова, А. Мілінчук і Т. Новік, В. Буйноўскі і В. Бацечка, В. Носаў і Е. Мароз, А. Гвозд і Е. Кузняцова.

**Ашмяны**

М. Гаўрыленкаў і Л. Лабковіч.

**Валожын**

Дз. Дарошка і В. Іода, Ю. Гнеўшаў і Н. Арцюшкевіч.

## Віншуем з нараджэннем!

*На нашай зямлі прыбавілася за 06-12.10 новых грамадзян Беларусі:*

**Смаргонь**

Яўгенія Дрозд, Лізавета Вяржынская, Аляксей Ягела, Кірыл Буцько, Дар'я Пашкевіч, Юлія Букліс, Вольга Гіль, Максім Галаваты, Дыяна Марцішонак.

**Ашмяны**

Лілія Садоўская, Аліна Дарагакупец, Дзмітрый Шыманскі, Маргарыта Жылік, Міхаіл Кішкель.

**Валожын**

Арцемій Белановіч.

*Дзякуем за прадастаўленыя звесткі ЗАГСам Смаргоні, Ашмянаў, Валожына.*

## Крымінал, здарэнні

# Студэнты выйшлі на "паляванне"




*ВІЛЕЙКА. На шашы Вілейка-Барысаў абласны камітэт па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і спецпадраздзяленне "Алмаз" затрымалі 7 рэкеціраў. Адзін са злачынцаў аказаў супраціўленне, быў паранены і памер у бальніцы.*

Рэкеціры, жыхары Мінска, на 2 машынах блакіравалі транзітныя фуры, легкавыя іншамаркі, пад пагрозай фізічнай расправы вымагалі грошы. На гэты раз ім не пашчасціла. Два месяцы супрацоўнікі Вілейскага РАУС іх "пасвілі", а інфармацыю перадавалі ў сталіцу. З 7 затрыманых двое - студэнты беларускай паолітэхнічнай акадэміі, яшчэ адзін - выпускнік акадэміі фізічнага выхавання.

Супрацоўнікі Вілейскага РАУС папрасілі ўсіх пацярпелых ад злачынстваў на дарогах рэгіёна звярнуцца да іх.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Пацярпеў. За хлеб

*ВАЛОЖЫН. Аддзяленне аховы мясцовага РАУС за дробныя крадзяжы ад пачатку года затрымала 120 чалавек.*

Нягледзячы на вялікую прафілактычную работу, лічба расце. Адным з апошніх на 300 тысяч рублёў аштрафаваны за крадзеж прадукцыі грузчык хлебазавода.

*Уладзімір ШОСТАК, старшы лейтэнант аддзялення "Ахова".*

## Сектар спорту

# Кубак супраць грошай

*АСТРАВЕЦ. У мінулую суботу каманда "Сатурн" павінна была сустрэцца ў 1/8 фіналу Кубка вобласці па футболе з лідскай "Зменай". Але астраўчане палічылі за лепшае саступіць без бою.*

Справа ў тым, што ў склад каманды "Змена" уваходзяць сапраўдныя майстры футбола, многія з іх гулялі ў першай лізе за "Абутнік". І таму перамагчы лідчан наўрад ці ўдалося б. Другая прычына ў фінансах, а дакладней, у іх недахопе. І таму мара аб Кубку вобласці і засталася марай, а фінансы засталіся цэлымі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Адным абзацам

Вытворчае аб'яднанне "Белмастацкераміка" да 550-годдзя Радашковічаў выпусціла юбілейны медаль і кубак.

На Смаргоншчыне адзначаны рост секстэефонных званкоў. Начальнік РВЭС **Іван Добрук** гаворыць, што ў некаторых сем'ях падлеткі нагаварылі ад 500 тысяч да амаль 3 мільёнаў рублёў. У асноўным, тэлефануюць у ЗША (60 тысяч за хвіліну).

Маладзечанскі гарвыканком забараніў знаходжанне падлеткаў да 18 год без бацькоў або асобаў, што іх замяняюць, на вуліцах горада, у дварах, пад'ездах, установах культуры, грамадскіх арганізацыях і г. д. "Каменданцкая гадзіна" будзе доўжыцца ад 22.00 да 6.00.

Галандская прыватная арганізацыя ў чарговы раз прывезла грошы для вілейскай спецшколы-інтэрната. Раней з яе дапамогай пакрылі дах дзіцячай установы.

У памяшканні маладзечанскай дзіцячай музычнай школы ў раёне завода парашковай металургіі учора адкрылася выстаўка работ фотамайстра, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, нашага аўтара **Аляксея Фяцісава.**

На мінулым тыдні ў смаргонскім мікраёне "Усходні" ў смецевай скрыні знайшлі цела нованароджанага дзіцяці. Вядзецца следства.

## Літоўская мяжа

# Сакрэтная работа лесаводаў

*АСТРАВЕЦ. На ўчастку пагранкамендатуры на беларуска-літоўскай мяжы брыгады лесарубаў з Палушанскага і Катлоўскага лясніцтваў пачалі ачыстку 5-метровай санітарнай паласы ўздоўж лініі дзяржмяжы.*

Гэта гаворыць толькі пра адно: хутка з'явіцца сапраўдная дзяржаўная мяжа з усімі патрэбнымі атрыбутамі.

Што ж тычыцца літоўскага боку, то гэта работа ў іх вядзецца даўно і больш хуткімі тэмпамі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Работа над памылкамі

У мінулым нумары "РГ" у матэрыяле "7 мільярдаў для музея" няправільна ўказана прозвішча дырэктара Мііскага абласнога краязнаўчага музея - Сяргея Іванавіча Марозава. Аўтар прыносіць свае прабачэнні.

У мінулым нумары на 2-й стар. быў змешчаны матэрыял з архіўным фотаздымкам аб адкрыцці дзесяць год таму чацвертай гарадской школы ў Вілейцы. Ён з'явіўся ў рубрыцы "Сярэдняя школа на плошчы Свабоды". У сапраўднасці школа месціцца на вуліцы Чапаева, а на плошчы Свабоды, дзе цяпер знаходзіцца гімназія, чацвертая школа праіснавала толькі год. Перапрашаем ў чытача і зычым усім школам адчуваць сябе на пляцы Свабоды.

## Машына, як песня

# Прафесар з Краснага



*МАЛАДЗЕЧНА. 74-гадовы жыхар вёскі Краснае Аляксандр Лыскоў старанна запісвае свае мянушкі на ўнутраным баку дзвярэй гаража. Мясцовыя паважаюць працавітыя рукі, розум суседа, таму надта не крыўдзяць: "Кулібін", "інжынер", "ленінец", "прафесар", "канструктар", "чалавек у футарале", "самавучка"...*

Праўда, дзіваком лічаць усе: 9 гадоў па трубках збіраў машыну, каб паспець да 100-годдзя бацькі. Нават год нараджэння роднага чалавека значыцца на "Залатой карэце" - менавіта пад такой назвай у тэхпашпарце ўпісана непаўтаральнае рукатворнае аўто. Акрамя гэтага музейнага экземпляра ў жыцці майстра былі 2 "Запарожцы", аўстрыйскі "Штэрн-220", 6 матаролераў і 15 матацыклаў. Тэхніка для Лыскова - і работа, і адпачынак. Аляксандр Вячаслававіч унук двараніна, сын знакамітага некалі екацярынбургскага аўтамеханіка. Яго продкі добра валодалі музычнымі інструментамі. Можа, таму яго тэхнічныя пошукі, быццам як тая песня,- з душою.

### Палка-ляталка "Л2"

Уральскага хлопчыка Сашу запрасілі на ІІ рэспубліканскі злёт авіямадэлістаў Удмуртыі ў Іжэўск. Тады рэкорд па дальнасці палёту для схематычнай мадэлі складаў 320 метраў. "Палка" Лыскова пасля першай спробы прызямлілася за адзнакай 630 метраў, пасля другой наогул знікла ў небе. Суддзі вырашылі запісаць час - 5 хвілін 40 секунд. Аб двух адразу ўсесаюзных рэкордах пісалі газеты. Лыскоў не пакутаваў на зорную хваробу, а працягваў вывучаць кнігу "Як разлічыць авіямадэль", якую знайшоў закінутай на бібліятэчных паліцах.

Пазней з "Л2" (Лыскоў-два) 16-гадовы школьнік трапіў у Маскву на ВДНГ. Потым, у пачатку шасцідзесятых, Аляксандр неяк слухаў радыё. Раптоўна: "Рэкорд, устаноўлены Лысковым у 1940 годзе па дальнасці палёту, пабіты..." Аднак колькі часу пратрымаўся!

У 70-90 гады прозвішча Лыскова ўжо грымела як настаўніка авіямадэлістаў. З 8 экспанатаў, што прадстаўлялі Беларусь на ВДНГ у Маскве, 6 належала вучням Лыскова, хлопцам з Краснага.

### Фотаапарат-скрынка

У школе Саша любіў маляваць. Але таленту не хапала. Мядзведзі атрымліваліся з заечымі вушамі, кветкі - падобнымі на агуркі. Сямікласнік заказаў бацьку прывезці з камандзіроўкі манокль. З кардону змайстраваў корпус фотаапарата, уставіў лінзу. З газавай лямпы - павелічальнік. Самаробнай скрыначкай здымаў дарослых на пашпарты, пасведчанні. Зарабіў 156 рублёў і купіў сапраўдны фотаапарат "Фотакор-1" Ленінградскага завода. Фотаапарат і цяпер дагледжаны, у рабочым стане.

Перад вайною толькі рэдакцыі газет маглі набыць дарагі, за 512 руб., айчынны ФЭД. Саша прапанаваў бацьку выпісаць з Германіі "Контэкс" - танней абыдзецца. На што дарослы пакрыўдзіўся: "Хочаш, каб у турму пасадзілі?!" Першы моцны па тэхнічных параметрах фотаапарат меў ужо лейтэнант Лыскоў, калі ўваходзіў у Берлін. Тыя фотаздымкі і цяпер у альбоме не жаўцеюць.

### Залатая карэта

Яшчэ да вайны бацька марыў набыць сваё аўто. Сям'я мела самаробны кацер з рухавіком ад "Форда". І "першым акордам" стала думка рухавік паставіць на колы. Адмовіліся - маглі за гэта саслаць на Калыму. У 1988 годзе Аляксандр Вячаслававіч у маладзечанскім камісійным магазіне за 930 рублёў купіў старую нямецкую мадэль DKW ("дрэва, клей, вада"). Дарабіў яе і афіцыйна выехаў з гаража за пару дзён да 100-годдзя бацькі. Але і па сённяшні дзень машына аднаўляецца.

- Бог працуе разам са мною,- сцвярджае Лыскоў,- на гарадскім сметніку знайшоў нейкія жалезкі. Прайшоў міма. Нейкая сіла зноў вярнула да іх. Узяў. Як потым спатрэбіліся!

Ездзіў майстар за жалезкамі ў Маскву. З сямейнага бюджэту выдзелілі пэўную суму грошай. Не ўклаўся. Пасля прыезду некалькі дзён дамашнім на вочы не паказваўся.

"Залатую карэту" Лыскоў рабіў для сябе. А потым неяк адныя запрасілі на вяселле - маладых вазіць. Яшчэ адныя. Зручна - машына, быццам з музея. Ды і вадзіцель адначасова фатограф. Здымае не горш за прафесіянала.

Аляксандр Вячаслававіч прасіў, каб літаратурна апісалі машыну. Але хіба можна апісаць мастацтва?

*Васіль САВІЦКІ, Алег ГУЛЕЦКІ.*




**Сэрца "Залатой карэты" - рухавік ад аўто ГАЗ 011, аб'ёмам 2,2 літра, 52 конскія сілы; 4-цыліндравы, з вадзяным ахаладжэннем. Паліўны бак 40 літраў (падыходзіць бензін А76 і А66), 6 месцаў, тэнт, акрамя клаксанаў, ёсць электрычны і пнеўматычны сігналы. Разганяецца да 90 км/ч. Пафарбаваная ў цёмна-бэжавы колер №509, які найлепш гарманіруе з латуннымі дэталямі аддзелкі. Самая адказная дэталь - перадок. На які, па патрабаванні ДАІ, прыйшлося паставіць дадатковыя фары. Якія, дарэчы, зусім не парушаюць агульнай гармоніі аўто, строгіх ліній і вытанчаных формаў асобных канструкцый. Асаблівы шык - трафейны куфар з Берліна, прымацаваны адзаду ў выглядзе багажніка. А як жа на гэтым шэдэўры ездзіць!**

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 17 - 23 кастрычніка 1997 года

# Маладзёжная

рэгіянальная газета

КАСТРЫЧНІК №5

## Паштовая скрынка маладзёжкі



*Добры дзень!*

*Піша ваша пастаянная чытачка з Мядзела. У вашай газеце можна прачытаць шмат цікавага пра тое, што адбываецца ў розных гарадах нашага рэгёна, а я вырашыла расказаць пра навакольную прыроду нашага славутага гарадка, у прыватнасці, пра возера Нарач. Такую назву атрымала возера таму, што першыя жыхары пачалі называць яго "нарочитым", гэта значыць, непаўторным, слаўным, ні на што не падобным. Прырода ўсім надзяліла гэты куток беларускай зямлі.*

## Як возера людзей ратавала



Як расказвае легенда, над Рукаваная яна ў канцы мінулага стагоддзя, возера Нарач здзейсніла цуд. У той час жыхарам пагражаў голад. У ліпені разгулялася бура. Валіліся дрэвы, ламаліся стрэхі, ну і вядома ж, разбушавалася і возера. Яго хвалі біліся аб бераг і выкідвалі рыбу, яе было так шмат, што жыхары вывозілі яе цэлымі вазамі і сушылі. А калі настала зіма і суседнія вёскі гінулі ад голаду, прыбярэжныя жыхары Нарачы пракормліваліся рыбай, яны нават пяклі з яе хлеб. Выкідванне рыбы працягвалася 10 дзён і, што самае цікавае, з захоўваннем чаргі адносна берагоў.

*Ну, вось і ўсё. На гэтым я заканчваю свой ліст і буду чакаць наступны выпуск газеты.*

*Да пабачэння.*

Марыя МЯЛЕШКА.

Фота Нарачы Аляксея ФЯЦІСАВА.



## Музыкантам смех спрыяе

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулым навучальным годзе школа мастацтваў выпусціла два музычныя класы. З сарака выпускнікоў пятнаццаць паступалі ў музычныя вучылішчы. І што вы думаеце, усе паступілі!**

*Пачуйце з іх вуснаў першыя ўражанні:*

**Света**, 16 г. (лічыць музыку сваім прызваннем):

- Аднойчы нас адпусцілі з урока. Ну вядома ж, усе ўзрадаваліся (справа адбывалася ўвечары), пабеглі хутчэй дадому. А адна дзяўчына з такога вялікага шчасця скакала праз тры прыступкі. А з той прычыны, што яна была на "платформах" (вышынёй прыкладна 7 см), студэнтка хутчэй за ўсіх апынулася ўнізе. Прасцей мовай кажучы: скакала, скакала - і даскакалася. Карацей, яна звалілася. Так мы яе і ўбачылі: дзяўчына рагоча, поўзае і збірае падручнікі, а мы ўверсе таксама рагочам.

**Ганна**, 15 год (юны талент):

- Напярэдадні Дня настаўніка з намі здарылася такая прыгода. Мы хацелі зрабіць падарунак настаўнікам і вырашылі напісаць насценгазету. Знайшлі вялікі ліст паперы, але забыліся яго ў класе беларускай літаратуры. А потым, калі прыйшлі па яго, аказалася, што настаўніца ўжо "прыгрэбла" гэты ліст у свае рукі (вырашыла сама зрабіць сабе падарунак). Вось такая гісторыя.

**Наташа**, 16 год.

- Аднойчы ў нас быў урок фізвыхавання. А там так заведзена, што кожны можа прыйсці на урок і "пакачацца". Ну дык вось, у нас урок, заходзіць хлопец. Пачаў распранацца: скінуў штаны, світэр, кашулю, майку і... шкарпэткі. Ну вось, распрануўся перад нашымі юнымі вачыма, правінеў звонок, ён апрануўся і пайшоў.



Юныя паслядоўнікі справы Агінскага



Тацціяна ЖОГЛА.

## ДОШКА АБ'ЯЎ

✻ Шукаю аўдыёкасету гурта "Агата Крысці" - "Другі фронт". Вольга.

✻ Шукаю акорды песень групы "Nirvana". Алеся.

✻ Набуду фотаздымак ФК "Спартак" (Масква). Марыя.

✻ ДЮСШ праводзіць набор хлопчыкаў 1988 г. нар. у групы пачатковай падрыхтоўкі па футболе. Збор 18 кастрычніка ў 9-00 на дзіцячым стадыёне.

*Лісты дасылайце ў рэдакцыю "РГ", тэлефануйце.*

## Госць у хату

## На занятк ў ластах не ходзяць

*МАЛАДЗЕЧНА. Больш за тыдзень у горадзе знаходзілася дэлегацыя з Эслінгена (Германія). У складзе яе быў 16-гадовы* **Цім ФАРЭОН**:

- У Беларусі я ўпершыню. Дагэтуль ездзіў у Нарвегію, Італію, Англію, Францыю. Дома, у гімназіі, з 8 класа вывучаем рускую мову. Аб наяўнасці беларускай наогул нічога не чуў.

**- Якія патрабаванні да вучняў у вас?**

- Ходзім на вучобу хто ў чым - не засяроджваюць на адзенні ўвагу. Праўда, і мы саромеемся прыходзіць на заняткі ў ластах. Выкарыстоўваецца 6-бальная сістэма адзнакаў. Адзінка - гэта выдатна.

**- Якія спецыяльнасці найбольш папулярныя?**

- Адвакат, журналіст. Яны добра зарабляюць.

**- У колькі гадоў моладзь бярэ шлюб?**

- Прыблізна ў 20-25 гадоў.

**- Самы дарагі падарунак ад бацькоў?**

- Матаролер.

**- Якую музыку слухаеце?**

- Металіку, Майкла Джэксана.

**- А хто такія Ала Пугачова, "Песняры"?**

- ?

*Размаўляў з немцам па-нямецку* Ігар ВОЙТКА.



## Адгаданка

## Чалавек мяняецца – усмешка застаецца

*Распачынаем перадапошні тур. Ён можа аказацца складаным, але не вешайце нос! Усміхайцеся, думайце.*

Суровыя людзі (ці чалавек?) на здымках - вядомыя музыканты.

А прошлы раз нам усміхаліся Буланава, Дзяржавін і Кузьмін. Дакладных адказаў было два, лідзіруе наша чытачка з Мядзела Марыя Мялешка, на 2-м і 3-м месцах Яўгенія Яліна і Насця Манцэвіч, а потым - трое хлопцаў. Чакаю адказы, бо гэтая "музыка" хутка скончыцца.

Дзядзька ГО.

5 ТУР










## Спартыўныя навінкі

### Віталь "біўся" па-астравецку

*АСТРАВЕЦ.* Са спартакіяды сярод навучэнцаў ДЮСШ па боксе вярнуліся Алег Яхімовіч і Віталь Савёнак. Яны бралі ўдзел у спаборніцтвах у складзе зборнай вобласці. Іх трэнер Аляксей Маргуж расказаў:

- Для Алега Яхімовіча спаборніцтвы склаліся не вельмі ўдала. А вось Віталь Савёнак дайшоў да фінішу, дзе ў вострай барацьбе саступіў. У выніку - другое месца, падарунак і дыплом.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

### Чэмпіёны вырастаюць у Лошы

*АСТРАВЕЦ.* На абласных спаборніцтвах па лёгкаатлетычным бегу і спартыўнай хадзьбе сярод вучняў 1983-85 года нараджэння, якія праходзілі ў Гродне на гарадскім стадыёне "Нёман", каманда раёна заняла трэцяе месца.

Асабліва вызначылася былая вучаніца Лошскай базавай школы Тарэза Баршчэўская. Яна была першай на дыстанцыі 800 м. Цяпер дзяўчына вучыцца ў Гродзенскім вучылішчы алімпійскага рэзерву.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

